БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЗ ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

12 сакавіка 1994 г.
Субота
№ 28 (13745)
Кошт у розніцу 50 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК










## Кур'ер "ЧЗ"



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслаў Грыб 10 сакавіка наведаў Магілёўскую вобласць, а таксама пабываў на Беларускім металургічным заводзе ў Жлобіне.

НА ЗДЫМКУ: сустрэча Мячэслава Грыба з калектывам Беларускага металургічнага завода.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ.

### Пастанова Савета Міністраў

У сувязі з ростам рознічных цэн і тарыфаў на паслугі, Савет Міністраў Беларусі вырашыў установіць з 1 красавіка 1994 года мінімальную заработную плату ў памеры 60 000 рублёў, а тарыфную стаўку першага разраду — 65 000 рублёў у месяц.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Белар

### Будзе свая валюта?

*Паводле звестак з парламенцкіх колаў, на разгляд Вярхоўнага Савета Беларусі прапанаваны праект пастановы аб абвяшчэнні адзіным плацежным сродкам на тэрыторыі Беларусі разліковага білета Нацыянальнага банка.*

Падпісаны праект старшынёй Нацбанка Станіславам Багданкевічам і прэм'ер-міністрам рэспублікі Вячаславам Кебічам. Праектам пастановы прадугледжваецца таксама наступнае: "Часова, да нармалізацыі плацежнага балансу рэспублікі, устанаўліваецца абавязковы продаж усімі суб'ектамі гаспадарання 50 працэнтаў экспартнай выручкі ў СКВ і 100 працэнтаў у валюце дзяржаў, якія раней уваходзілі ў СССР, на міжбанкаўскай валютнай біржы або нацыянальным банку па рыначнаму курсу... на тэрыторыі рэспублікі паступова згортваецца гандаль за свабодна канверсуемую валюту".

БелаПАН.

### Галоўнае – пачатак

*Завяршыўся чатырохдзённы візіт у Германію міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі.*

З гэтай нагоды адбылася прэс-канферэнцыя. Пётр Кузьміч паведаміў журналістам, што гэта быў першы больш чым за 70 гадоў афіцыйны візіт у ФРГ на такім узроўні. На сустрэчы былі абмеркаваны вельмі важныя эканамічныя пытанні. Германія прапанавала Беларусі крэдыт у 300 мільёнаў нямецкіх марак.

Не менш важкім на перамовах міністраў было падпісанне паміж краінамі мемарандума "Чарнобыльская дапамога". Дзякуючы яму будзе станоўча вырашацца шмат чарнобыльскіх пытанняў. Мемарандум стане той прававой базай, на аснове якой будуць развівацца такія праграмы, як стварэнне сеткі радыяцыйнага забруджвання, марынгу, падрыхтоўкі лекараў, адкрыцця аздараўленчых цэнтраў для дзяцей, правядзенне вымяральных і іншых праграм.

Падзеяй для абедзвюх краін стала падпісанне пагаднення аб культурным супрацоўніцтве. Гэта вельмі шырокі па змесце дагавор. Ён уключае ў сябе культурныя абмены, будаўніцтва культурна-адукацыйных цэнтраў і нават музеяў. Сёння ў ФРГ ужо існуюць германа-беларускі культурна-адукацыйны цэнтр і музей беларускай культуры.

Святлана КУЛІКОВА.

### Маладзёжныя лаўрэаты

*Пяць прэмій па 300 тысяч рублёў былі ўручаны Саюзам моладзі Беларусі 10 сакавіка.*

За ўклад у педагагічную дзейнасць і самадзейную творчасць узнагароджаны Алег Каваль з Гомельскага універсітэта транспарту і Павел Пабягаеў — кіраўнік дзіцячай студыі "Вясёлыя ноткі" з Магілёўскай вобласці. Радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная" і кампазітар Зміцер Еўтуховіч атрымалі прэміі за дзейнасць у галіне літаратуры, мастацтва і журналістыкі, а ў галіне навукі і тэхнікі прэмія была ўручана старшыні Савета маладых вучоных БДУ Ігару Ганчаронку.

Сакратар ЦК Саюза моладзі Беларусі Аляксандр Фядута адзначыў, што ў галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі і садзейнічання рэалізацыі інтарэсаў моладзі дзве прэміі не прысуджаліся, таму што не знайшлося кандыдатаў, вартых гэтай узнагароды.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Да гадавіны БНР

*Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМА ва ўправе Беларускага народнага фронту, арганізацыйны камітэт па святкаванню чарговай гадавіны аб'яўлення 25 сакавіка 1918 года незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі падаў заяўку ў Мінгарвыканкам на правядзенне шэрагу мерапрыемстваў у сувязі з гэтай датай.*

20 сакавіка плануецца правесці шэсце грамадскасці Мінска ад плошчы Незалежнасці да парку імя Янкі Купалы з далейшым правядзеннем там святочных мерапрыемстваў. 22 сакавіка ў Доме літаратара намечана правесці вечар, а 25 сакавіка — у Палацы мастацтва — выстаўку мастакоў, прысвечаную Дню абвяшчэння БНР.

БЕЛІНФАРМ.

### Адзінота – лепшае лякарства?

*Усё ішло да таго, што мінулая зіма павінна была стаць для гродзенцаў прыемным сюрпрызам у сувязі з адсутнасцю рэгулярнай штогадовай эпідэміі грыпу. Але не паспелі гараджане парадавацца, як хвароба ў апошнія дні лютага ўсё ж прыйшла ў Гродна.*

"Першыя ластаўкі" з'явіліся ў паліклініках 14-га лютага, а ўжо праз два тыдні штодня да ўрачоў са скаргамі на грып звярталася больш за тысячу чалавек. Найбольш інтэнсіўны рост захворванняў зарэгістраваны сярод школьнікаў. Таму з 3-га сакавіка ў горадзе ўведзены ўвесь комплекс супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў.

Як вядома, ад грыпу і раней у нас было няшмат лекаў, а зараз — і таго менш. Таму лепшым выйсцем са становішча ўрачы лічаць абмежаванне кантактаў паміж людзьмі. Іншымі словамі, ад грыпу, як і ад кахання, лепшы сродак выратавання — адзінота.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Саліруюць беларускія "Ліцвіны"

*Штотыднёвыя сольныя канцэрты зорак беларускай папулярнай музыкі працягваюцца. На чарзе сустрэча з маладзёжным фольк-гуртам "Ліцвіны".*

Хадзілі плёткі аб распадзе калектыву, але вось зноў, пасля нязначных зменаў у складзе, ён выходзіць на сцэну, каб зрабіць прэзентацыю свайго новага магніт-альбома. Адбудзецца канцэрт 15 сакавіка ў 18.30 у мінскім Доме літаратара.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### "Аўтар" пакуль не вядомы

*Праз тыдзень пасля пажару ў рэстаране віцебскай гасцініцы "Ветразь" спецыялісты завяршылі калькуляцыю ўрону, нанесенага гораду — сталіцы фестываляў "Славянскі базар".*

Сума ўрону перавышае 100 мільёнаў рублёў (у сённяшніх цэнах на абсталяванне і матэрыялы). Паранейшаму працуе спецыяльная следчая камісія, але, як кажуць, "аўтар" пакуль не вядомы.

БелаПАН.

### Курсы валют на 11 сакавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8200 | 8530 | 4840 | 5035 |
| "Пошук" | 8200 | 8350 | 4700 | 5000 |
| "Прыор" | 8150 | 8350 | 4740 | 4940 |



Караткевіч прызямліўся і ў Віцебску.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## Новыя джынсы, каханне і... адзіная рублёвая зона

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, ЧЗ

*Літаральна дванаццаць дзён таму ў краіне здарылася надзвычайнай важнасці падзея. Да нас прыйшла вясна. А з ёй — туманы, адліга, першая птушка, новыя спадзяванні, свежыя прагнозы, абноўленыя планы на будучыню. Для таго, каб спытацца, чаго чакаюць мінчукі і госці сталіцы ад новага "сезона", я і адправілася на галоўную плошчу горада. Даведацца пра гэта тым больш цікава, паколькі сезон абяцае быць пладавітым на розныя нававядзенні: мадэльеры пагражаюць новай модай, сіноптыкі — надзвычай цёплым надвор'ем, эканамісты — адзінай рублёвай зонай, палітыкі — першым беларускім прэзідэнтам.*

***Андрэй ГОРАЎ, студэнт:*** Чакаю, калі суха стане. У мяне белыя красоўкі стаяць, з новымі джынсамі збіраюся насіць. Палітыкай не асабліва цікаўлюся, ва ўсякім разе, не настолькі актыўны, як гэтыя (паказвае рукой на невялікі натоўп мітынгуючых на плошчы). Адносна адзінай рублёвай зоны мой прагноз такі: спачатку мы аб'яднаемся, потым — раз'яднаемся. І так многа разоў, пакуль не зразумеем, што нам на самай справе патрэбна. Асабіста я гэтага пакуль таксама не ведаю. Але мне здаецца, што нам патрэбны моцны-моцны прэзідэнт.

***Юрый ЗДАНОВІЧ, урач "хуткай дапамогі".*** У нас пакуль так: хворых усё больш і больш, а зарплата ў дактароў усё менш і менш. Аклады, канешне, павышаюцца, але што мы можам на іх купіць? Ні кроплі на гэта не спадзяюся, але хацеў бы, каб у новым сезоне ўсё было наадварот: каб зарплата ў дактароў была вялікая, а хворых — мала. Дарэчы, паміж гэтымі двума паказчыкамі ёсць прамая сувязь. Дарэмна нашыя кіраўнікі гэтага не прыкмячаюць.

***Юля ШВЕЦ, адукацыя амаль сярэдняя, будучая прафесія — цырульнік:*** Сапраўдная вясна яшчэ не прыйшла. Вось пачакайце, сонца прыпячэ — і ўсе выпруцца на вуліцы, аднолькава апранутыя са стадыёна "Дынама". Паглядзіце, усе будуць у аднолькавых паліто і з аднолькавымі сумкамі: з такімі чамаданчыкамі і кейсамі, якія на Захадзе робяцца спецыяльна для цырульнікаў і манікюршчыц па выкліку, а ў нас, чамусьці, увайшлі ў шырокую моду. Чаго чакаю ад вясны? Зразумела чаго. Кахання.

***Канстанцін Пятроўскі, гісторык:*** Ніякага прэзідэнта нам не трэба. Проста мы ўзялі звычку капіраваць Маскву. Наша бяда, што мы не маем свайго шляху — выхаду з крызісу. У Расіі ідуць рэформы, і калі праўда, што гэты працэс на самай справе паспяховы, то і дзякуй Богу. Значыць, яны знайшлі свой шлях. А мы павінны шукаць свой. Іначай так і будзем заўсёды чакаць міласці, як гэта сёння адбываецца.

***Вера Паўлаўна КАРЗУКЕВІЧ, пенсіянерка:*** Чакаю, калі пенсіі дабавяць. Вясной чакаю, летам чакаю, зімой чакаю. Ужо некалькі гадоў спадзяюся, што вось пенсію падымуць — лягчэй будзе. А яны заўсёды спачатку цэны ў некалькі разоў павысяць, потым крыху зарплату, а ўжо потым да нашых пенсій чарга дойдзе. Як можна жыць, калі пенсія — 80 тысяч, а кілаграм каўбасы — 15 тысяч. Атрымліваецца, нам толькі на пяць кілаграмаў каўбасы ў месяц даюць. Раней я дзецям дапамагала, а зараз — яны мне.

***Алег ТРАФІМЧУК, прадпрымальнік:*** Падаткі трэба меншымі рабіць. Сёння ў нас такое становішча: мы самі сабе ствараем умовы для працы, што называецца — робім за дзяржаву яе работу. Канешне, часта нам гэта выгадна... Я думаю, абсалютна ўсё роўна: будзем мы мець прэзідэнта ці не будзем, увойдзем у рублёвую зону ці не. Галоўнае для нас — гэта свабодны выхад на расійскі рынак. Мне здаецца, мы будзем яго мець у любым выпадку.

■

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С. КІРЫЕНКА, Д. ЛІТВІН, рэдактар П. СІМАНАЎ.*

### "Еўраньюс"

#### ЗАБІТЫ ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР ТАДЖЫКІСТАНА

*Учора раніцай быў забіты таджыкскі віцэ-прэм'ер.*

Забойства было ўчынена невядомымі, якія праніклі ў яго кватэру.

#### "НЯЛЁТНАЕ НАДВОР'Е?"

*Лонданскі аэрапорт Хітроу зноў падвергся тэрарыстычнаму акту з боку Ірландскай рэспубліканскай арміі.*

У ноч з чацвярга на пятніцу тут былі знойдзены некалькі выбуховых устройстваў. Ніводнае з іх, на шчасце, не спрацавала. Авіякампаніі "Брыціш Эйруэйз" прыйшлося адмяніць усе рэйсы.

#### "ЧЫСТКА" Ў ЦРУ

*Глава ЦРУ заявіў днямі аб маючай адбыцца праверцы ўсіх эшалонаў разведкі.*

Гэта рашэнне было прынята пасля нядаўняга выкрыцця шпіёнскай дзейнасці сям'і Эймс.

### "Суперчэннэл"

#### НЕЛЕГАЛЬНА ЕХАЛІ ПА ШЧАСЦЕ...

*Дванаццаць чалавек загінулі і сем атрымалі сур'ёзныя раненні ў сераду ў Каліфорніі, дзе перакуліўся грузавік з сальвадорскімі іміграантамі.*

Мяркуецца, што ўсе яны трапілі ў ЗША нелегальна. Ні ў аднаго з іх не было ніякіх дакументаў. Прадстаўнік Каліфарнійскай дарожнай паліцыі ўдакладніў, што 4 чалавекі ехалі ў кабіне (што забаронена), астатнія былі ў кузаве, не прыстасаваным для перавозкі людзей.

#### ТАТУЛЯ БАРБІ РАСКАШЭЛІЎСЯ

*Фірма "Матэль Інкарпарэйтэд", стваральнік самай папулярнай у свеце лялькі Барбі, своеасабліва адзначыла дзень нараджэння сваёй "дачкі", якой споўнілася 35 гадоў.*

Фірма выдзеліла больш як мільён даляраў дзіцячым установам. Аднак на святкаванні ў магазіне Шварца (асноўным цэнтры гандлю цацкамі), што ў Нью-Йорку, дзяцей было мала. Большую частку публікі склалі падлеткі, якія калекцыяніруюць усе разнавіднасці Барбі. У гэтым годзе да іх прыбавіліся Барбі-гімнастка і Барбі на ролікавых каньках.

### "TV-5"

#### КАНТРАБАНДЫСТЫ ЗА БОРТАМ

*Восем кантрабандыстаў былі вымушаны выскачыць за борт судна, пасля таго як яно было блакіравана паліцэйскімі катэрамі ля ўзбярэжжа Дамініканскай Рэспублікі.*

Карабель, гружаны какаінам, працягваў некіруемы рух, пакуль паліцэйскім не ўдалося трапіць на яго борт. Кошт перавозімага наркотыку ацэньваецца ў 10 млн. даляраў. Пра лёс злачынцаў улады пакуль не паведамляюць.

### "Уорлднэт"

#### САМЫ РАСІСЦКІ ШТАТ

*Улады Нью-Хэмпшыра ў чарговы раз адхілілі патрабаванні грамадскасці аб'явіць 10 сакавіка днём памяці Марціна Лютэра Кінга.*

Штат з'яўляецца адзіным у ЗША, дзе ў гэты дзень афіцыйна не аб'яўлены днём памяці барацьбіта за правы чалавека, забітага расістамі. Адна з дачок Кінга, выступаючы ў Нью-Хэмпшыры, назвала штат "самым расісцкім у ЗША".

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



**БІЗНЕС-КЛАС**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

## Раздзяржавім і ў холдынг

Паводле інфармацыі Дзяржкаммаёмасці, доля раздзяржаўленай і прыватызаванай у мінулым годзе маёмасці склала 10,1 працэнта ад агульнага кошту асноўных фондаў, якія падлягаюць раздзяржаўленню. За гэты перыяд прыватызавана 140 аб'ектаў, у рэспубліканскі бюджэт за кошт прыватызацыі паступіла 5685,12 млн. рублёў. Урадам зацверджана Праграма прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1994 год. У ёй прадугледжана давядзенне долі прыватызаванай маёмасці да 20 працэнтаў кошту асноўных фондаў, што падлягаюць раздзяржаўленню, а таксама стварэнню холдынгаў у працэсе рэарганізацыі дзяржпрадпрыемстваў шэрагу міністэрстваў, ведамстваў, дзяржаўных канцэрнаў і карпарацый, буйных вытворчых аб'яднанняў і пераўтварэнне не менш як 50 буйных дзяржпрадпрыемстваў сферы матэрыяльнай вытворчасці ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы са стварэннем на іх аснове холдынгаў.

Служба інфармацыі урада Рэспублікі Беларусь – БЕЛІНФАРМ.

## Хочаш катацца – плаці

Мінскі аблвыканкам прыняў рашэнне, згодна з якім прадпрыемствы і арганізацыі, незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання, павінны адлічваць у дарожныя фонды сродкі за карыстанне аўтамабільнымі дарогамі. Для калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў памер адлічэння складае 0,5 працэнта ад аб'ёму выробленай прадукцыі. Нарыхтоўчыя, гандлёвыя і забеспячэнскія аб'яднанні абавязаны ўнесці 0,3 працэнта гадавога абароту, усе астатнія — адзін працэнт ад аб'ёму выпускаемай прадукцыі. Ад уплаты вызваляюцца арганізацыі, якія састаяць на дзяржаўным бюджэце, а таксама жыллёва-эксплуатацыйныя і дарожныя, грамадскія арганізацыі інвалідаў. Прадпрыемствы могуць замяніць адлічэнні сродкаў непасрэдна выкананнем дарожных работ, вырабам і пастаўкай будаўнічых матэрыялаў, машын і дэталей да іх. У дарожныя фонды могуць накіроўвацца сродкі ад правядзення мэтавых пазык, продажу акцый, платы за праезд па аўтадарогах цяжкавагавых транспартных сродкаў, размяшчэння рэкламы на дарогах. Прадпрыемствы з замежнымі інвестыцыямі адлічваюць сродкі на агульных падставах.

БелаПАН.

## Амерыку Японіі не дагнаць

Вы лічыце, што японскія прадпрыемствы самыя прадукцыйныя ў свеце? Гэта не зусім так, хаця многія нашы "савецкія" эканамісты і пастараліся ўбіць у галовы сваіх суайчыннікаў гэту легенду. Найбольш высокай прадукцыйнасцю працы адрозніваюцца Францыя і Бельгія.

Японскі цэнтр прадукцыйнасці працы апублікаваў уласныя выкладкі на гэту тэму. Калі ўзяць сярэднюю прадукцыйнасць працы ў Японіі за 100, то для французскіх і бельгійскіх прадпрыемстваў гэты паказчык у 1991 годзе быў роўны 127. Далей ідуць Канада і Італія — абедзве па 123, за імі ЗША са 120, былая ФРГ са 114 і Іспанія са 106 адзінкамі. А вось Аўстралія, Вялікабрытанія, Швецыя і Паўднёвая Карэя, у сваю чаргу, саступаюць японскім паказчыкам.

Японіі будзе вельмі цяжка дагнаць ЗША па прадукцыйнасці працы нават да 2000 года, лічаць спецыялісты Цэнтра. Для гэтага ў краіне прыйдзецца правесці магутную кампанію па зняццю ўсялякіх дзяржаўных абмежаванняў у прамысловай сферы.

Святлана КУЛІКОВА.

КАРЭСПАНДЭНТ АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ

# Усё было зусім не проста

□ Юлія ЛУЦАЙКОВІЧ

Ніколі не думала, што калі-небудзь мне спатрэбіцца пасведчанне выхавальніка дашкольнай установы, якое я атрымала яшчэ ў школе. Атрымала і амаль што забылася пра яго. Але ніхто і ніколі не ведае, што чакае яго заўтра. Не ведала і я яшчэ пару дзён таму, што спатрэбіцца ўспомніць тую складаную навуку і правесці дзень у старэйшай групе дзіцячага садка.

І вось я тут. Знаёмлюся. Зацікаўленыя вочкі глядзяць на незнаёмую "цёцю", але нядоўга. Бо вакол столькі цікавага. На жаль, дзеці ў групе не сядзяць за партамі, як школьнікі. Бегаюць. Скачуць. Куляюцца. Маё першае выпрабаванне — прагулка. Спрабую арганізаваць малых, ды дзе там! Як кураняты ў добрае надвор'е, разлятаюцца яны ў розныя бакі шматкаляровымі камячкамі. Паспрабуй прасачы за гэтымі шалапутамі! Колькі разоў яны падалі — ужо не пералічыць. І лёд ім не лёд, і лужына не лужына, і асфальт, нават калі на яго ўпасці, не асфальт. Спачатку сціскалася сэрца, як бы не параламалі ўсе свае косці. Потым крыху прывыкла. Шкадавала зрэдку іншых бацькоў: не таннае гэта задавальненне кожны месяц мяняць гардэроб дзіцяці. Прагулка працягваецца. Стаю, пераступаю з нагі на нагу, змерзла зусім. Злуюся на сябе: не за сваю справу ўзялася. А да абеду яшчэ 24 хвіліны...

Але вось мы ўжо ў групе. Абед прайшоў паспяхова, не ўлічваючы, канешне, кімсьці перавернутага на сябе супу.

Зараз магу і адпачыць. 18 ружовых крэселак стаяць у два роўныя рады. На іх акуратна складзены сукенкі і штаны. Ціхі час. Як выяўляецца, я паспела ўжо адвыкнуць ад цішыні.

Уселася за стол. Нехта паставіў яго такім чынам, што бачыць маіх свавольнікаў, калі яны спяць, я магу толькі спінай. Гэта і спрабую зрабіць. Вы, відаць, не ведаеце, якую незямную асалоду адчуваеш, калі сцягваеш коўдру са спячага, яшчэ добрая ўцеха — сціскаць нос суседу, у рэшце рэшт можна выцягваць пер'е з падушкі, вадзіць тапкам па падлозе ці падаваць сігналы "калегам", што не спяць.

Нарэшце, прачнуліся. Крык і гоман цяпер не сціхаў да самага вечара. Казка сарвігалоў займала толькі на некалькі хвілін. Кожная гульня абавязкова канчалася бойкай са слязамі. Без прывычкі, калі крыкну, адчуваю, ужо пяршыць у горле. На нейкі момант задумалася, і раптам да мяне падплывае нейкі цуд. Разгледзеўшы, разумею, што гэта адна з маіх дзяўчынак. Яе роўная грыўка, якую я бачыла некалькі хвілін таму, кудысьці знікла. А на яе месцы паўзло ўверх нешта незразумелай даўжыні з выскубленымі кавалкамі пасярэдзіне. Задаволеная гарэза заціскае ў руцэ маленькія манікюрныя нажніцы і ўсміхаецца. Не ведаю, як вам, а мне ў той момант было не да смеху.

— Светачка, ці добра ж ты зрабіла? — пытаюся ў яе.

Крыху збянтэжаная, але яшчэ ўсміхаючыся, яна некалькі разоў ківае. Цырульнае майстэрства калышацца ў такт рухам. Пакуль падводжу да люстэрка, разважаю, што са мною зробяць яе бацькі. Калі ўчора збіралася ў садок, лічыла, што буду толькі выхавальнікам, а, здаецца, памылілася.

Падстрыгла валасы дзяўчынкі, падраўняла, растлумачыла ўсё яе вельмі незадаволенай маці. Яна, канешне, мела права быць незадаволенай. Прызнаю. Недагледзела. Дзень заканчваўся. Пераставалі грукаць дзверы маёй групы і суседніх. Разам з дзецьмі знік і гоман.

Маленькае мурзатае чарцянё стомлена глядзіць то на дзверы, то на мяне. Мы з ім адны.

— Мама часта затрымліваецца на працы, — тлумачыць ён, — а тата з намі не жыве.

У вялікім доме насупраць гараць агні амаль ва ўсіх вокнах. Людзі адпачываюць, п'юць гарачы чай. Я выходжу з садка, іду дадому. Стомленасць як ад грубай фізічнай работы, але ў адрозненне ад яе яшчэ і апатыя пасля эмацыянальнага перанапружання. Хаця, заўважце, я не праводзіла заняткаў, толькі гуляла з дзецьмі.

Хачу паглядзець назад, на вокны групы. Вецер са снегам збівае з ног. Не дазваляе. Холадна. Слізка. Адказнасць матэрыяльная ні якім чынам не параўноўваецца з той, якая ляжыць на плячах выхавальніка. Яго праца больш адказная. Яна куды складанейшая і цяжэйшая.

■



# Узнагароды ўсяму ўзводу

Вестка аб пачатку вайны застала Васіля Каршака на невялікай чыгуначнай станцыі Тачанка, што недалёка ад Оршы. 17-гадовы вясковы хлопец асвойваў спецыяльнасць рамонтніка. Лічыўся ў складзе аднаўленчай "лятучкі".

У першыя ж дні фашысты пачалі бамбіць Оршу. Калі кружылі над станцыяй Тачанка, падбілі адзін з нашых бронецягнікоў. На дапамогу байцам прыйшоў асабовы састаў чыгуначнай аднаўленчай "лятучкі". Каршак разам з вопытнымі спецыялістамі шмат зрабіў для хутчэйшага ўвядзення ў строй бронецягніка.

Ішоў чацвёрты дзень вайны. Перад світанкам на шашы з'явілася варожая калона. Фашысты з ходу разгарнулі мінамётную батарэю і пачалі абстрэльваць чыгуначнікаў. Асколкам міны параніла Васіля ў нагу. Яго накіравалі ў Магілёў на лячэнне. Там у ваенным шпіталі Каршак даведаўся, што бронецягнік агнём сваёй зброі знішчыў нямецкую мінамётную батарэю.

Пасля шпіталя юнак некалькі месяцаў працаваў на аднаўленні разбураных варожай авіяцыяй чыгуначных магістраляў пад Смаленскам, Бранскам і Курскам. У пачатку сорак другога яго залічылі наводчыкам супрацьтанкавай зброі стралковага палка. У адным з жорсткіх баёў пад Варонежам Каршак падбіў танк праціўніка. На наступны дзень падавіў кулямётную кропку, якая перашкаджала руху нашых стралкоў.

Палкавыя артылерысты, якія дзейнічалі ў баявых парадках пяхоты, неслі сур'ёзныя страты. Аднойчы раніцай Каршак уступіў у агнявы паядынак з нямецкай зброяй. Атрымаўшы цяжкае раненне, не пайшоў з агнявой пазіцыі да тых часоў, пакуль не знішчыў варожую гармату.

Тры месяцы змагаліся ваенныя ўрачы за жыццё мужнага артылерыста. Выпісаўшыся са шпіталя, сяржант Каршак стаў камандзірам 76-міліметровай супрацьтанкавай гарматы. Праявіў мужнасць у баях пад Курскам і Арлом. У ліку першых дасягнуў граніц Беларусі. Вызначыўся пры вызваленні вёскі Яўсееўка, што ў 40 кіламетрах ад Оршы, а таксама Магілёва. Там ён узначаліў агнявы ўзвод, атрымаў воінскае званне малодшага лейтэнанта.

— Зараз накірунак на Мінск,— сказаў падначаленым Васіль Каршак, калі часці і падраздзяленні 380-й стралковай дывізіі прарвалі абарону праціўніка.

Артылерысты надзейна падтрымлівалі наступленне стралкоў. Цяжкія баі разгарэліся ў раёне Трасцянца. Трапіўшыя ў акружэнне пад Мінскам гітлераўцы адчайна спрабавалі разарваць "кальцо". Гарматныя разлікі ўзвода Каршака падбілі два танкі і знішчылі амаль роту пяхоты праціўніка. Пры гэтым вызначыліся сяржанты Міхалеўскі і Паграбняк.

Мужнасць і знаходлівасць праявіў узводны. Накіроўваючыся на назіральны пункт камандзіра батарэі, Каршак заўважыў у хмызняку групу ўзброеных гітлераўцаў. Выхапіўшы з-за пояса гранату, ён крыкнуў: "Вы акружаны. Рукі ўгору!" На дапамогу Каршаку падаспелі сяржанты Міхалеўскі і Паграбняк. У лічаныя хвіліны нашы артылерысты ўзялі ў палон 107 варожых салдат і двух афіцэраў.

Раніцай 3 ліпеня 380-я дывізія выйшла да Мінскага чыгуначнага вакзала. Камандзір дывізіі генерал-маёр Кустаў і камандзір палка маёр Шапялевіч уручылі баявыя ўзнагароды Васілю Каршаку і ўсяму асабоваму саставу яго ўзвода.

Трэцяе цяжкае раненне Каршак атрымаў за Брэст.

Каля сарака гадоў інвалід вайны, афіцэр у адстаўцы працаваў на прадпрыемствах беларускай сталіцы. Да яго франтавых узнагарод прыбавіліся працоўныя.

Д.ПІСЛЯКОЎ,
палкоўнік у адстаўцы,
інвалід II групы.

■

# Тут нараджаюцца лебедзі









Мінскае харэаграфічнае вучылішча ў наступным годзе адсвяткуе сваё пяцідзесяцігоддзе.

Вучылішча закончылі многія знакамітыя артысты балета, якія танцуюць на сцэнах вядомых тэатраў усяго былога Саюза. І натуральна, што аснову балетнай трупы Опернага тэатра Беларусі складаюць выпускнікі вучылішча.

Вялікія магчымасці адкрыліся перад калектывам пасля пераезду ў новы будынак з прасторнымі класамі, утульным інтэрнатам, уласнай сцэнай.

Гэтая навучальная ўстанова карыстаецца папулярнасцю ў балетным свеце, сюды прыязджаюць вучыцца з Расіі, Польшчы, Украіны, Японіі.

Фота Сяргея БРУШКО.

ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

## На ўзбраенні... канапа

*На Асіповіцкім заводзе аўтаагрэгатаў завяршыліся распрацоўкі па вырабу... канапы–ложка.*

Доўгі час прадпрыемства працавала на ваенную прамысловасць. Сёння ж значная частка яго прадукцыі ідзе на МАЗ, БелАЗ для стварэння магутных машын. Акрамя таго, пасля перапрафіліравання заводу даводзіцца выпускаць і тавары народнага спажывання.

Іван СЦЯПУРА.

## "Зялёнае святло" інвалідам

*Аршанскім гарвыканкамам распрацавана гарадская комплексная праграма па праблемах інваліднасці на 1994–1996 гады.*

У прыватнасці, яна ўключае ў сябе рэкамендацыі па індывідуальнаму медыцынскаму абслугоўванню інвалідаў, іх прафесіянальнай, сацыяльна-бытавой, сацыяльна-псіхалагічнай і сацыяльна-прававой рэабілітацыі. У горадзе пры паліклініках плануецца адкрыць аддзяленні рэабілітацыі артапеда-траўматалагічных хворых, пацыентаў з захворваннямі органаў дыхання, страўнікава-кішачнага тракта, сардэчна-сасудзістымі. Для дзяцей адкрыецца псіхатэрапеўтычны кабінет.

Будуць ствараццa ўмовы для бесперашкоднага доступу інвалідаў да сацыяльнай інфраструктуры. Сюды ўваходзіць аснашчэнне святлафораў гукавой сігналізацыяй, стварэнне нахіленых уездаў у новых дамах для інвалідаў-калясачнікаў і іншае.

Яўген БРАЖЫЦКІ.

## Ліцэй у вёсцы

*Першы ў Беларусі сельскі ліцэй з'явіўся на Гродзеншчыне –– ён створаны на базе сярэдняй школы ў вёсцы Верцялішкі ў знакамітай аграфірме "Прагрэс".*

Амаль дваццаць юнакоў і дзяўчат вучацца ў 9-10-х класах ліцэя з эканамічным ухілам. Разам з сярэдняй адукацыяй яны набываюць папулярныя ў наш час спецыяльнасці банкаўскіх служачых і сакратароў-рэферэнтаў. Пасля заканчэння ліцэя выпускнікі змогуць працягваць вучобу ў ВНУ рэспублікі.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

## Глыбокае –– не "глыбінка"

*Глыбокае яшчэ бліжэй стала да Мінска. Прынамсі, літаратурнае жыццё сталіцы не абыходзіць і гэты далёкі раённы цэнтр. Нядаўна тут пабывалі госці з выдавецтва "Мастацкая літаратура", а затым глыбачане завіталі ў Мінск.*

Гаворка вялася пра беларускую кнігу, якую ўсё радзей апошнім часам сустрэнеш на паліцах раённых кнігарняў. У хуткім часе, дарэчы, тут будуць выдаваць уласную кнігу "Глыбоччына літаратурная". Глыбокае -- зусім не глыбінка.

## "Наддзвінне" стала народным

Званне народнага нядаўна прысвоена полацкаму літаратурнаму аб'яднанню "Наддзвінне".

Сёння гэты калектыў знаходзіцца ў эпіцэнтры літаратурнага жыцця краю. А выток ён бярэ яшчэ ў далёкіх дваццатых гадах. За доўгі слаўны час адсюль выйшлі многія слынныя майстры слова: Янка Скрыган, Эдуард Самуйлёнак, Тарас Хадкевіч, Пятрусь Броўка, Генадзь Бураўкін. Не забывае сцежкі на радзіму пісьменнік Іван Стадольнік. А ў мясцовай газеце літаб'яднанне мае ўласную старонку.

## На бога спадзявайся...

*...а сам старайся. Паслухацца народнай мудрасці вырашылі ў калгасе "1 мая" Бешанковіцкага раёна.*

У мясцовай вёсцы адкрылі фірменную краму. Пенсіянерам, адзінокім людзям, ды ўсім тым, хто не мае мажлівасці трымаць гаспадарку, можна купіць мяса, малако, ячмень, насенне травы. Відавочная выгада і калгасу, бо транспартаванне прадукцыі ў раён і яе перапрацоўка каштуе нятанна. У іншых бы гаспадарках вобласці звярнулі ўвагу на вопыт "першамаеўцаў".

Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.

## Адкусіў нос...

*На пляцоўцы танцавальнай у Глыбокім адбылося нешта падобнае на 41–ы год. Каля гадзіны ночы развязаўся крывавы мардабой. У самым прамым сэнсе без носа застаўся навучэнец мясцовага ПТВ. Відовішча шакіравала не толькі сведкаў і ўдзельнікаў бойкі, але і ўрачоў "хуткай дапамогі".*

Найхутчэй ад стрэсавых дрыжанняў пазбавілася міліцыя і кінулася на затрымку людаеда. Ім аказаўся студэнт Віцебскага тэхналагічнага інстытута.

## Галоўнае –– пачатак

*Завяршыўся чатырохдзённы візіт у Германію міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі.*

З гэтай нагоды адбылася прэс-канферэнцыя. Пётр Кузьміч паведаміў журналістам, што гэта быў першы больш чым за 70 гадоў афіцыйны візіт у ФРГ на такім узроўні. На сустрэчы былі абмеркаваны вельмі важныя эканамічныя пытанні. Германія прапанавала Беларусі крэдыт у 300 мільёнаў нямецкіх марак.

Не менш важкім на перамовах міністраў было падпісанне паміж краінамі мемарандума "Чарнобыльская дапамога". Дзякуючы яму будзе станоўча вырашацца шмат чарнобыльскіх пытанняў. Мемарандум стане той прававой базай, на аснове якой будуць развівацца такія праграмы, як стварэнне сеткі радыяцыйнага забруджвання, марыторынга, падрыхтоўкі лекараў, адкрыцця аздараўленчых цэнтраў для дзяцей, правядзенне вымяральных і іншых праграм.

Падзеяй для абедзвюх краін стала падпісанне пагаднення аб культурным супрацоўніцтве. Гэта вельмі шырокі па зместу дагавор. Ён уключае ў сябе культурныя абмены, будаўніцтва культурна-адукацыйных цэнтраў і нават музеяў. Сёння ў ФРГ ужо існуюць германа-беларускі культурна-адукацыйны цэнтр і музей беларускай культуры.

Святлана КУЛІКОВА.

■

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



## ЦЯГНІК–ФАКЕЛ

*У аўторак раніцай у 10 кіламетрах ад Цюрыха таварны цягнік сышоў з рэек.*

У адным з вагонаў знаходзіўся бензін, у выніку аварыі гэты вагон узарваўся. Тры будынкі паблізу месца аварыі згарэлі поўнасцю.

## НЕ КРЫЎДЗІЦЕ НАЦЫЯНАЛІСТА

*Сем чалавек забіта і восем паранена ў выніку выбуху бомбы, кінутай падсудным у зале суда горада Юскірхен (Германія).*

Апошні (нямецкі нацыяналіст) абвінавачваўся ў нанясенні цяжкіх цялесных пакалечанняў членам сваёй сям'і. Пры вынясенні прыгавору — штрафу ў размеры 80 тысяч марак — ён раптам выхапіў пісталет і разрадзіў яго ў старшыню суда, пасля чаго дастаў з сумкі бомбу і кінуў яе ў залу.

## КЭРЫГАН НЕ ПАЕДЗЕ НА ЧЭМПІЯНАТ

*Амерыканская фігурыстка Нэнсі Кэрыган, няўдачніца Ліліхамера, не будзе ўдзельнічаць у маючым адбыцца чэмпіянаце свету па фігурнаму катанню, паведамілі яе менеджэры.*

Адзін з іх, Эві Скотвальд, заявіў:"Мы вырашылі, што яна павінна адпачыць". Такім чынам, Нэнсі ўступіць месца ў камандзе 14-гадовай Міхаэле Кван.

## УСЕ ЗАДАВОЛЕНЫ?

*Амерыканская кіназорка Джэк Нікалсан, абвінавачаны гэтымі днямі ў нападзе на вадзіцеля "Мерседэса" і прычыненні яму матэрыяльнага ўрону, з'явіўся на плакатах паліцыі Лос–Анжэлеса. Але не пад грыфам "Вышукваецца". Паліцыя вырашыла выкарыстаць акцёра ў якасці рэкламнай прымані да маючага адбыцца чэмпіянату па гольфу паміж паліцэйскімі ўчасткамі горада.*

Ходзяць чуткі, што паліцыя і Нікалсан заключылі здзелку адразу пасля таго, як пацярпеўшы вадзіцель падаў іск. Паліцыя разлічылася за разбіты "Мерседэс", Нікалсан згадзіўся рэкламаваць турнір, справа закрыта. Як кажуць, і козы сыты, і сена цэла.

## У БАГДАДЗЕ НЕ ЎСЁ СПАКОЙНА

*У рэзалюцыі камісіі па правах чалавека ААН, прынятай у сераду, указваецца, што ААН вельмі занепакоена становішчам спраў у гэтай сферы ў Іраку.*

Камісія таксама рашуча настроена супраць пагроз і прыгавору, якім падвергся брытанскі пісьменнік Салман Рушдзі, прыгавораны Іракам да пакарання смерцю. Ірак, аднак, адхіліў усе патрабаванні з боку ААН. Акрамя ўсяго іншага, ААН упершыню ў сваёй гісторыі асудзіла ў афіцыйнай пастанове антысемітызм гэтак жа, як "усялякія віды дыскрымінацыі неграў, арабаў і мусульман".

## ЭКАЛАПЧНАЯ МОДА

*Апошні "крык" экалагічнай моды — другасная утылізацыя, якая ўключае перапрацоўку выкарыстанай сыравіны, прымяненне шкляной і папяровай тары ў самых нечаканых спалучэннях. Ізраільскі тэкстыльны інстытут правёў конкурс мадэлей пад лозунгам другаснай утылізацыі ўсяго, што трапляецца пад рукі і... пад ногі.*

Перамагла студэнтка першага курса інстытута, якая прадставіла вячэрні туалет, выкананы з выкарыстаных дыскет.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

АДАМ І ЕВА

# ПАЛЮБОЎНІК

□ Наталля АПАНАСОВІЧ

*— Вы цудоўны палюбоўнік!— прашаптала яна. Некалькіх кароткіх імгненняў у прамежках паміж пацалункамі ледзь хапіла, каб перавесці дыханне. Ад неадольнага жадання кружылася галава... Пачуццё было новым, незнаёмым. Напэўна, гэта нават не было пачуццём, хутчэй адчуваннем: ап'яняючае задавальненне, настоенае на цікаўнасці, з крыху прыкметнай гарчынкай трывогі. Яго моцныя рукі і бязладныя словы, яго пах і непадробнае жаданне — усё і прываблівала, і трывожыла, і дражніла сваёй неабавязковасцю.*

*Ёй заўсёды хацелася ведаць, як і чаму становяцца палюбоўнікамі. Яе ўласны вопыт меў прысмак добрага каньяку з маленькім кавалачкам шакаладу.*

...Ветравое шкло залівае дождж, але не барабаніў надакучліва, а хутчэй шапацеў, і "дворнікі" стомлена размазвалі яго ціхія слёзы. У машыне ад гэтага было вельмі ўтульна.

— Як мала трэба для шчасця, праўда?

Замест адказу ён парывіста абняў яе, зноў стаў цалаваць валасы, вочы. Ці была яна шчаслівая з ім? Ды і што на самай справе азначае гэта эфемернае слова —шчасце? Калі ўзаемнае каханне, то яго не было. Яна не кахала свайго палюбоўніка— хутчэй не магла ўстаяць перад яго настойлівасцю. А ён... Ён мог глуха сказаць па тэлефоне:"Я сумую без цябе" або "Хацеў толькі пачуць цябе", але заўсёды абыходзіў у размове гэтыя жаданыя для кожнай жанчыны і "ракавыя" для мужчыны словы. Толькі адзін раз або два, страціўшы розум ад узбуджэння, гаварыў: "Я кахаю...". Але чаго не скажаш у такія мінуты?

Яны сустракаліся ўдалечыні ад людскіх вачэй, ездзілі ў лясную глухамань, на возера або ў адзінокі "домік лесніка", і ім было вельмі добра ўдваіх. Гэтыя сустрэчы напаўнялі яе жыццё рамантыкай і пачуццёвасцю. Раз за разам яны ўсё больш растаплялі ў душы ледзяны згустак назапашаных за гады крыўд, расчараванняў і сямейнай штодзённасці.

Аднак... не зрабілі яе больш шчаслівай. Гэта цяжка зразумець, але нават у самыя радасныя мінуты з ім яна адчувала ўнутры сябе халадок сумнення. Можа таму, што палюбоўнік не апраўдаў яе чаканняў?

— Табе добра са мной? Скажы "так".

— Так, так, так!

— Маленькая мая, лапачка мая...

Яна заплюшчвае вочы, шчасліва прыціскаецца да моцнага цела. І ўсё ж нешта не так.

Хаваючыся ад штодзённасці, яна ўяўляла сябе Папялушкай і жадала аддацца ў рукі Прынца. Але іншы раз успаміналася, што нумар яе тэлефона запісаны на яго настольным календары сярод доўгага спіса іншых дзелавых, а гэта сустрэча — усяго толькі прыемны візіт у прамежках паміж нарадамі. Ёй хацелася маленькіх жаночых радасцей, невялічкіх прэзентаў. Хапіла б не букета — аднаго вялікага рамонка з доўгімі пялёсткамі. А ён мог прыехаць без нічога. Развітваючыся, здзіўляўся, які зменлівы ў яе настрой, як неспадзяванай хмаркай налятае на яе туга.

"Навошта мне ўсё гэта?" З самага пачатку яна спрабавала адгаварыць сябе ад сустрэч, шукала ў яго недахопы, прычыны для сваркі. Спачатку яна баялася, што пра іх сувязь стане вядома, і яна страціць вельмі многа — дом, сям'ю, павагу і дабрабыт. Часам пачуццё небяспекі было такім моцным, што яна адключала тэлефон і некалькі мінут не магла супакоіцца. Потым страх адступіў, яго месца заняло іншае — пачуццё віны. Гэта было так балюча — адчуваць сябе дрэннай, непрыстойнай жанчынай, якая падманвае сумленнага чалавека. Спачатку яна шукала апраўдання ў тым, што кожны можа дазволіць сабе крыху задавальнення ў жыцці, поўным непаразумення, крыўд і канфліктаў. Але гэта дрэнна дапамагала: яна ведала, што не заслугоўвае даравання, таму што сама б не змагла дараваць здраду.

У бяссонныя ночы яна абяцала сабе, што мінулая сустрэча была апошняй. Але раніцай раздаваўся тэлефонны званок — і яна не магла ўстаяць. Перад чым? Спакуса была зусім не ў сексе. Да гэтага мужчыны яе прыцягвала нешта незразумелае. Часта яна ішла на спатканне, не жадаючы яго, але потым ніколі не шкадавала. Жаданне быць любімай перасільвала страх і нараджала простае: "А чаму б і не? Няхай будзе што будзе, я хачу гэтага!"

Усё здавалася намнога прасцей да таго, як сяброўка падзялілася неяк сакрэтам:"Ведаеш, з кім сустракаецца М.М.? А я ведаю!" Тады яна нават выгляду не падала, што ёй балюча. А зараз не магла знайсці сабе месца.

Яна не думала, што для яе гэта так важна. Успрымаючы іх адносіны як лёгкае, ні да чаго не абавязваючае задавальненне, заўсёды лічыла, што зможа іх спыніць спакойна, без намаганняў і ў любы момант. Ёй прыемна было дазваляць жадаць сябе, прыносіць яму радасць і радавацца самой, не абяцаючы і не патрабуючы абяцанняў, лічачы сябе і яго не звязанымі адзін з адным. Тады чаму ёй так цяжка? Адкуль узнікла пачуццё, быццам яе падманулі? А можа гэта не рэўнасць, а абражанае самалюбства? Калі зазваніў тэлефон, ваяўнічыя ноткі ў яе душы яшчэ не змоўклі.

— Добры вечар.

— Не зусім.

... Яны не бачыліся некалькі тыдняў. Пачуццё крыўды ў душы змяніла пустата і чаканне. Аднойчы ён "выхапіў" яе з натоўпу і завёз пад махнатыя снежныя сосны.

— Усё, што ты гаворыш, — гэта глупства. У мяне ёсць толькі ты. Якія словы змогуць пераканаць цябе?

— Няма такіх слоў.

— Я ведаў, што калі-небудзь страчу цябе. Мы зусім розныя. Але, каб пайсці, табе не трэба было прыдумваць прычыну. Я ўсё зразумеў бы.

Мяккай, лёгкай сняжынкай на сэрца апусціўся сум, і знікла рэальнасць. Навошта я яму патрэбна? Што хаваецца за яго настойлівасцю, акрамя самалюбства, жадання разнастайнасці? Як усё стала б прасцей, калі б ён сказаў праўду! Страты ў гэтым свеце непазбежны. Хаця, хто ведае, можа, страціўшы, мы набываем нешта больш каштоўнае? Але што ж? Свабоду? Спакой? Так, напэўна. І гэта цудоўна. Гэта значыць, што настаў час уключыць тэлефон.

Але чаму ён маўчыць?

■

# Крыжаслоў



ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 5. Вецер вялікай разбуральнай сілы Ціхага акіяна. 6. Старажытная назва Забайкалля Прыморскага краю. 9. Распаўсюджанне звестак для стварэння папулярнасці. 10. Ваеннаслужачы бранятанкавых войск. 12. Спартыўныя практыкаванні з абручамі. 13. Мера ўздзеяння. 16. Шчыт са светавой сігнальнай інфармацыяй. 17. Рускі кампазітар, аўтар сімфоніі "Русь". 18. Валакністыя ніткі з лёну. 20. Частка марскога дна. 21. Савецкая палярная станцыя ў Антарктыцы. 24. Вядомы індыйскі кінаакцёр. 26. Зорка першай велічыні. 28. Спецыяліст па захворванню сэрца. 29. Пачатак ракі. 30. Гарадскі пасёлак у Шумілінскім раёне. 32. Сорт салодкіх яблыкаў. 35. Невялікая жывёла з каштоўным футрам бурага колеру. 36. Міжвольная рэакцыя арганізма ў адказ на знешнія раздражненні. 37. Кантынент. 38. Старана геаметрычнай фігуры, перпендыкулярная да яе вышыні ў матэматыцы.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Бураціі. 2. Беларускі кампазітар, аўтар оперы "Кастусь Каліноўскі". 3. Савецкая дзіцячая паэтэса. 4. Рака, прыток Сожа. 5. Сукупнасць снасцей судна. 7. Рабочы пасёлак у Асіповіцкім раёне. 8. Дэталь механізмаў апоры. 9. Паведамленне аб выкананні загаду. 11. Міжнародная сетка абанентнага тэлеграфавання. 14. Частка перадачы ў канале электрасувязі. 15. Савецкая актрыса. 19. Орган нямецкай разведкі ў час Вялікай Айчыннай вайны. 20. Музычны знак альтэрацыі. 22. Масавае відовішча ў Іспаніі. 23. Ваенна-транспартны самалёт у час Вялікай Айчыннай вайны. 25. Аб'ект сельскагаспадарчага выкарыстання. 27. Сімвалічная выява якога-небудзь паняцця, ідэі. 31. Момант узлёту ракеты. 32. Прыборы для асвятлення сцэны. 33. Манапалістычнае аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў пад адным кіраўніцтвам. 34. Жыхар Афрыкі.

Даслаў Валеры ПІНЧУК.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАСЛОЎ, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 23

ЗЛЕВА НАПРАВА: 1. 1958 год. 3. 1979 год. 5. 1899 год. 7. 1889 год. 9. 1939 год. 11. 1529 год. 13. 1959 год. 15. 1897 год. 17. 1932 год. 18. 1952 год. 19. 1883 год. 20. 1980 год. 21. 1946 год. 22. 1981 год. 23. 1978 год. 24. 1957 год.

СПРАВА НАЛЕВА: 2. 1919 год. 4. 1969 год. 6. 1898 год. 8. 1879 год. 10. 1929 год. 12. 1569 год. 14. 1909 год. 16. 1869 год. 17. 1767 год. 18. 1812 год. 19. 1942 год. 20. 1973 год. 21. 1950 год. 22. 1966 год. 23. 1941 год. 24. 1968 год.

ПАДПІСКА-94

# НА ЛЮБЫ ГУСТ

Я зноў падпісалася на "Чырвонку". Газета сёлета з кожным разам становіцца ўсё цікавейшай. Першыя паслянавагоднія нумары пазнаёмілі чытачоў з новай рубрыкай "Дзевятае неба". Яна прыжылася, і цяпер той, хто выпісвае беларускую маладзёжную газету, заўсёды ў курсе самых апошніх падзей свету. Потым рэдакцыя прапанавала яшчэ некалькі цікавых рубрык: "13-е крэсла", "Спытайце ў Наташы", асабліва карысная, на мой погляд, "Юрыдычная служба "ЧЗ". Творчы калектыў "Чырвонай змены", думаецца, мае ў загашніку і яшчэ нямала добрых задумак. Таму я выбіраю "Чырвонку", якая задавальняе чытацкія патрэбы на любы густ.

Н. МІХАЙЛАВА.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

| Кошт | падпіскі | ______рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______рублёў. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## БУДЗЬЦЕ З НАМІ!

Працягваецца падпісная кампанія на II квартал бягучага года. Спадзяёмся, сярод вялікай колькасці выданняў вы зноў выбераце вашу "Чырвонку"

*Кошт падпіскі— 1440 рублёў. Індэкс 63129.*

ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

# 14-20 сакавіка



### РЫБЫ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Стрымлівайце свае эмоцыі ў гутарках з роднымі.

**АЎТОРАК.** Поспех у фінансавай сферы. Звярніце ўвагу на сваю нервовую сістэму.

**СЕРАДА.** Займіцеся бізнесам у гэты дзень. Не вельмі спрыяльны час для эратычных зносін.

**ЧАЦВЕР.** Павышэнне вашага творчага патэнцыялу. Пазбягайце сутыкненняў з ахоўнікамі парадку.

**ПЯТНІЦА.** Можаце дабіцца жаданага выніку, нягледзячы ні на што. Не сварыцеся са сваім каханым, каб у далейшым не шкадаваць.

**СУБОТА.** Непаразуменні ў асабістым жыцці. Наведайце царкву ў гэты дзень.

**НЯДЗЕЛЯ.** Магчымы няўдачы ў некаторых вашых пачынаннях. Не праяўляйце залішняй актыўнасці. Больш часу правядзіце на прыродзе.

### АВЕН

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Пастарайцеся нічога сур'ёзнага не планаваць у гэты дзень. Устрымайцеся ад хуткіх рашэнняў.

**АЎТОРАК.** Непаразуменні ў каханні.

**СЕРАДА.** Не давярайце нікому свае фінансавыя справы. Звярніце ўвагу на сваіх дзяцей.

**ЧАЦВЕР.** Цудоўны час для змены месца працы. У інтымным плане магчыма вас чакае ўзнагарода.

**ПЯТНІЦА.** Не верце ўсяму, што вам скажуць у гэты дзень.

**СУБОТА.** Няўдачы ў бізнесе.

**НЯДЗЕЛЯ.** Захоўвайце асцярожнасць у падарожжах.

### ЦЯЛЕЦ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Устрымайцеся ад вялікіх пакупак. Магчымы цяжкасці са здароўем.

**АЎТОРАК.** Усё, што плануеце, пастарайцеся ажыццявіць. Каханню ўсе ўзросты пакорныя.

**СЕРАДА.** Поспех у фінансавай сферы. У каханні трэба ўмець дараваць.

**ЧАЦВЕР.** Вам лепш нічым не рызыкаваць у гэты дзень. Будзьце стрыманымі ў гутарках з блізкімі.

**ПЯТНІЦА.** Верагоднасць траўм. Сачыце за сваімі дзецьмі.

**СУБОТА.** Не палохайцеся цяжкасцей у бізнесе. Займіцеся спортам у гэты дзень.

**НЯДЗЕЛЯ.** Разумовая актыўнасць прывядзе вас да поспеху ў фінансавай сферы.

### БЛІЗНЯТЫ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Пазбягайце эмацыянальных успышак.

**АЎТОРАК.** Магчыма новае цікавае захапленне. Не страчвайце розуму. Беражыце свой страўнік.

**СЕРАДА.** Пастарайцеся не сварыцца са сваім партнёрам, каб пазбегнуць непрыемнасцей.

**ЧАЦВЕР.** Паспяховы час для інтымнага жыцця.

**ПЯТНІЦА.** Лепш не рызыкуйце ў гэты дзень у бізнесе.

**СУБОТА.** Магчыма вырашэнне нейкай цяжкай праблемы.

**НЯДЗЕЛЯ.** Поспех у каханні.

### РАК

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Звярніце ўвагу на сваю нервовую сістэму. Непаразуменні ў асабістым жыцці.

**АЎТОРАК.** Пастарайцеся не сварыцца з супрацоўнікамі ў гэты дзень.

**СЕРАДА.** Праблемы ў сям'і.

**ЧАЦВЕР.** Праблемы ў каханні і ў фінансавай сферы.

**ПЯТНІЦА.** Будзьце стрыманымі ў адносінах да сваіх родных.

**СУБОТА.** Больш часу ў гэты дзень прысвяціце сваім блізкім. Сачыце за сваімі дзецьмі.

**НЯДЗЕЛЯ.** Пастарайцеся выехаць за горад, на прыроду.

### ЛЕЎ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Магчымы матэрыяльны прыбытак. Спрыяльны час для кахання.

**АЎТОРАК.** Павышэнне вашага творчага патэнцыялу. Будзьце больш рашучымі ў асабістым жыцці.

**СЕРАДА.** Праяўляйце больш характару і настойлівасці ва ўсім.

**ЧАЦВЕР.** Пастарайцеся ажыццявіць усё, што плануеце ў гэты дзень. Магчымы нечаканыя грашовыя паступленні.

**ПЯТНІЦА.** Вам трэба будзе зразумець свайго каханага, удзяліць яму больш увагі.

**СУБОТА.** Верагодна паспяховае падарожжа. У вас будзе шмат новых знаёмстваў.

**НЯДЗЕЛЯ.** Паляпшэнне фінансавага становішча. Спрыяльны час для забаў.

### ДЗЕВА

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Лепш адкласці ўсе фінансавыя аперацыі. У сямейных адносінах і ва ўзаемаадносінах з супрацоўнікамі пазбягайце канфліктаў.

**АЎТОРАК.** Будзьце ўпэўненымі ў сабе. З'явяцца шанцы на поспех у бізнесе.

**СЕРАДА.** Не рызыкуйце нічым у гэты дзень.

**ЧАЦВЕР.** Цудоўны час для самавыяўлення ў любым відзе дзейнасці. Удача ў асабістым жыцці.

**ПЯТНІЦА.** Займіцеся спортам у гэты дзень.

**СУБОТА.** Стрымлівайце свае эмоцыі. Непаразуменні ў каханні.

**НЯДЗЕЛЯ.** Больш часу пастарайцеся правесці на свежым паветры. Не злоўжывайце алкаголем.

### ШАЛІ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Займіцеся хатнімі справамі ў гэты дзень.

**АЎТОРАК.** Магчыма паляпшэнне фінансавага становішча. Устрымайцеся ад хуткіх рашэнняў.

**СЕРАДА.** Праблемы ў сям'і. Не старайцеся зрабіць усе адразу, каб сур'ёзна не захварэць.

**ЧАЦВЕР.** Не верце нікому ў гэты дзень, каб пазбегнуць непаразуменняў.

**ПЯТНІЦА.** Нядрэннае становішча на працы. Але не прымайце ніякіх рашэнняў у гэты дзень.

**СУБОТА.** Сачыце за сваімі расходамі. Поспех у інтымным жыцці.

**НЯДЗЕЛЯ.** Пазбягайце рызыкоўных прадпрыемстваў. Захоўвайце асцярожнасць у дарозе.

### СКАРПІЁН

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Пастарайцеся не вырашаць ніякіх юрыдычных спраў у гэты дзень. Цяжкасці ў каханні. Звярніцеся па дапамогу да сваіх сяброў.

**АЎТОРАК.** Не давярайце нікому свае фінансавыя справы.

**СЕРАДА.** Не прымайце ніякіх важных рашэнняў у гэты дзень

**ЧАЦВЕР.** Напружаныя адносіны з бліжэйшым асяроддзем. Асцерагайцеся ўсялякіх сварак на працы і ў сям'і.

**ПЯТНІЦА.** У каханні трэба ўмець дараваць. Беражыце сваё здароўе.

**СУБОТА.** Займіцеся спортам у гэты дзень. Магчымы цяжкасці ў рэалізацыі творчых планаў.

**НЯДЗЕЛЯ.** У вас будзе шмат цікавых сустрэч.

### СТРАЛЕЦ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Поспех у каханні. Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёння.

**АЎТОРАК.** Можаце дамагчыся жаданага выніку ў гэты дзень на працы. Пастарайцеся не пасварыцца з каханым.

**СЕРАДА.** Стрымлівайце свае нервы. Атрымаеце нейкія звесткі здалёк.

**ЧАЦВЕР.** Пазбягайце канфліктаў у сям'і. Не злоўжывайце ежай.

**ПЯТНІЦА.** Не вельмі паспяховы дзень для эратычных зносін. Перачакайце.

**СУБОТА.** Цудоўны час для здзелак. Але не трэба дзейнічаць аднаму.

**НЯДЗЕЛЯ.** Поспех у каханні. Будзьце больш настойлівымі ва ўсім.

### КАЗЯРОГ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Не стаўце сябе ў цэнтр Сусвету ў гэты дзень. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

**АЎТОРАК.** Сардэчныя справы нармалізуюцца. Не страчвайце ўпэўненасці ў сабе.

**СЕРАДА.** Устрымайцеся ад вялікіх пакупак. Удача ў інтымным жыцці.

**ЧАЦВЕР.** Стабілізуецца становішча на працы.

**ПЯТНІЦА.** Сябры могуць дапамагчы вам у нейкай выгаднай здзелцы. Не адмаўляйцеся. Дайце адпачынак свайму сэрцу.

**СУБОТА.** Не давярайце нікому свае фінансавыя справы.

**НЯДЗЕЛЯ.** Магчымы цяжкасці ў асабістым жыцці. Наведайце царкву ў гэты дзень.

### ВАДАЛЕЙ

**ПАНЯДЗЕЛАК.** Няўдачы ў вашых пачынаннях. Не праяўляйце залішнюю актыўнасць. Лепш перачакайце.

**АЎТОРАК.** Магчымы непаразуменні на працы.

**СЕРАДА.** Пастарайцеся нічым не рызыкаваць у гэты дзень.

**ЧАЦВЕР.** Фінансавыя цяжкасці.

**ПЯТНІЦА.** Будзьце ўважлівымі да свайго здароўя. Стрымлівайце свае эмоцыі ў сям'і.

**СУБОТА.** Спрыяльны для інтымных адносін час.

**НЯДЗЕЛЯ.** У каханні першае слова ваша. Магчыма матэрыяльная падтрымка з нечаканай крыніцы.

■

